# ЗЬМЕСТ

# Вітаньне ад Старшыні Рады БНР

Шаноўныя сябры,



Найбольш значнай палітычнай падзеяй у Беларусі ў 2015 годзе, на жаль, сталіся чарговыя недэмакратычныя і несумленныя прэзыдэнцкія выбары. Аляксандар Лукашэнка, які незаконна займае гэтую пасаду вось ужо 22 гады, быў у пяты раз абвешчаны Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь.

Рада БНР у сваіх заявах на розных этапах выбарчае кампаніі характарызавала гэтыя выбары як неадпаведныя дэмакратычным стандартам. Ацэнка, якую дала Рада БНР, была пазьней пацьверджаная ў справаздачы назіральніцкай місіі АБСЭ.

Стратай году, бясспрэчна, сталася сьмерць а. Аляксандра Надсана, у мінулым раднага БНР, легендарнай фігуры ў жыцьці беларускай дыяспары. Айцец Аляксандар заўжды застанецца для нас прыкладам служэньня Беларусі і інтарэсам беларускага народу, як духоўны лідар, грамадзкі дзеяч, навуковец і амбасадар Беларусі ў вольным сьвеце.

З добрых падзеяў прамінулага году – доўгачаканае вызваленьне беларускіх палітычных вязьняў, а таксама першы ў гісторыі незалежнай Беларусі ляўрэат Нобэлеўскае прэміі, Сьвятлана Алексіевіч. Рада БНР не абыйшла сваёй увагаю гэтыя падзеі.

З 1919 году Рада БНР працягвае сваю працу ў выгнаньні і аб’ядноўвае ў сваіх шэрагах найбольш палітычна актыўных прадстаўнікоў беларускае дыяспары. Наша мэта – каб Беларусь сталася вольнай і дэмакратычнай краінай у сям’і эўрапейскіх народаў. За мінулае стагодзьдзе беларусы прайшлі доўгі, цяжкі, але ўрэшце пераможны шлях ад ня ўсімі прызнанай этнічнай супольнасьці да народу, які мае ўласную сувэрэнную дзяржаву.

Задача, якая засталася перад намі, беларусамі, – гэта забясьпечыць для Беларусі дэмакратычны дзяржаўны лад і гарантаваць нашую незалежнасьць, якая ў апошнія гады праз палітыку рэжыму А. Лукашэнкі застаецца пад сур’ёзнай пагрозай.

Запрашаю ўсіх беларусаў замежжа далучацца да асяродкаў адзінадумцаў (такіх, як БАЗА ў ЗША, ЗБВБ у Вялікай Брытаніі, ЗБК у Канадзе і іншыя), а таксама ствараць гэткія асяродкі самастойна там, дзе іх яшчэ няма. Рада заўсёды была адкрытаю для ўсіх сілаў у Беларусі і за яе межамі, якія стаяць на пазыцыях дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі.

Івонка Сурвіла

**Івонка Сурвіла**
**Старшыня Рады БНР**

# Пра Раду БНР




Рада Беларускае Народнае Рэспублікі – найстарэйшая дзеючая беларуская палітычная і дзяржаўная інстытуцыя, захавальнік традыцый беларускага нацыянальнага руху ад пачатку мінулага стагодзьдзя.

Рада была сфармаваная ў якасьці Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду, які прайшоў у сьнежні 1917 года ў Менску. Зьезд сабраў амаль 1900 дэлегатаў ад органаў мясцовага самакіраваньня, грамадзкіх і палітычных арганізацый усіх рэгіёнаў Беларусі.

У лютым і сакавіку 1918 г. Рада БНР у трох Устаўных Граматах абвесьціла Беларусь сувэрэннай дэмакратычнай дзяржавай, у якой павінны гарантавацца і ахоўвацца ўсе асноўныя правы чалавека і дэмакратычныя свабоды. Тады Рада БНР выконвала функцыю часовага найвышэйшага калектыўнага органа дзяржаўнага кіраваньня на Беларусі. Яе задачаю была падрыхтоўка да правядзеньня Ўстаноўчага Сойму, на якім мелі быць прынятыя базавыя законадаўчыя акты і распачаты працэс фармаваньня пастаянных органаў улады ў краіне. Савецкая акупацыя Беларусі не дазволіла гэтым плянам спраўдзіцца.

Ад 1919 г. Рада БНР дзейнічае ў выгнаньні. За гэты час Рада як прадстаўнік інтарэсаў Беларусі ў вольным сьвеце ўсталявала шчыльныя рабочыя кантакты з урадамі і дыпляматычнымі службамі многіх дзяржаваў, арганізавала шматлікія інфармацыйныя і адукацыйныя праекты, ад стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў у заходнеэўрапейскіх унівэрсытэтах да выданьня беларускае літаратуры і пэрыёдыкі. Намаганьнямі Рады БНР было арганізаванае вяшчаньне беларускае службы “Радыё Свабода”, якое па сёньняшні дзень застаецца важным беларускім сродкам масавае інфармацыі.

Адной з задачаў Рады было і застаецца інфармаваньне грамадзкасьці і палітычных колаў краінаў вольнага сьвету аб Беларусі і яе становішчы. Прадстаўнікі Рады БНР неаднаразова выступалі ў Парлямэнце Вялікай Брытаніі, мелі сустрэчы з вышэйшым кіраўніцтвам Злучаных Штатаў Амэрыкі, Канады, Чэскае Рэспублікі і іншых краінаў. Дзякуючы высілкам

Рады БНР яшчэ ў 20-х гг. XX стагодзьдзя кіраўнцтва краінаў Захаду было праінфармаванае аб самастойных інтарэсах беларускага народу і пра яго дзяржаўніцкія памкненьні. Менавіта Рада БНР за шмат дзесяцігодзьдзяў пасьлядоўнае працы падрыхтавала глебу для прызнаньня міжнароднай супольнасьцю незалежнасьці Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе.

Пасьля распаду СССР і камуністычнага блёку аналягічныя экзыльныя дзяржаўныя структуры іншых краінаў нашага рэгіёну – польскі, украінскі і эстонскі ўрады у выгнаньні, латвійская дыпляматычная служба ў выгнаньні і іншыя – склалі свае паўнамоцтвы на карысьць дэмакратычна абраных уладаў сваіх краінаў. За кароткі час адносна дэмакратычнага разьвіцьця Беларусі Рада БНР не пасьпела гэтага зрабіць: сфармаваны ў 1990 годзе Вярхоўны Савет БССР XII скліканьня яшчэ ня мог лічыцца дэмакратычна абраным парлямэнтам незалежнае Беларусі, а выбары ў Вярхоўны Савет XIII скліканьня ў 1995 годзе прайшлі зь істотнымі парушэньнямі ва ўмовах набіраючага моц аўтарытарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

Сучасная місія Рады БНР палягае ў прадстаўніцтве інтарэсаў незалежнай і дэмакратычнай Беларусі ў сьвеце. Рада ўключае восемдзесят членаў (“радных”), якія прадстаўляюць беларускія арганізацыі з 15 краінаў: Аўстраліі, Бэльгіі, Вялікай Брытаніі, ЗША, Канады, Латвіі, Літоўскай Рэспублікі, Нямеччыны, Польшчы, Расеі, Украіны, Францыі, Чэхіі, Швэцыі, Эстоніі. Кожныя два гады Рада БНР праводзіць Сэсіі, паміж якімі пастаянна дзеючым органам застаецца Прэзыдыюм Рады.

# Старшыня Рады БНР

З Статуту Рады БНР:

*§22. На чале Рады БНР стаіць Старшыня Рады БНР.*

*§23. Старшыня Рады БНР — найвышэйшы прадстаўнік Рады БНР і Беларускага Народу. Яго абірае Рада БНР на Сэсіі Рады БНР на тэрмін 6 гадоў. (...)*

*§25. Да кампэтэнцыі Старшыні Рады БНР належыць:*

*а) рэпрэзэнтаваньне БНР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў;*

*б) прызначэньне прадстаўнікоў БНР пры ўрадах і прадстаўніцтвах іншых народаў;*

*в) іншыя справы, што вынікаюць з займанага становішча, а не прызначаныя іншым органам.*

## Івонка Сурвіла, VII Старшыня Рады БНР

Нарадзілася ў 1936 годзе ў Стоўпцах. З 1944 году – у эміграцыі. Жыла ў Францыі, Даніі, Гішпаніі. Цяпер жыве ў Канадзе. Мае дзьвюх дачок.

Вучылася ў Вышэйшай Мастацкай Школе ў Парыжу. Скончыла лінгвістычнае аддзяленьне Сарбонскага Ўнівэрсытэту (1959). Акрамя роднае беларускае мовы валодае ангельскай, француcкай, гішпанскай і дацкай мовамі, у мінулым таксама прафэсійна валодала нямецкай, лацінскай, нарвэскай, і польскай мовамі.

У 1959-1965 гадох працавала ў беларускай рэдакцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыё, выкладала француcкую мову ў Француcкім Інтытуце ў Мадрыдзе. З 1969 году і да апошняга часу працавала на розных пасадах у Бюро перакладаў пры Фэдэральным Урадзе Канады.

Займалася жывапісам, удзельнічала ў мастацкіх выставах.

У 1989 годзе арганізавала Канадзкі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі і заставалася яго кіраўніком да моманту абраньня Старшынёю Рады БНР.

# Прэзыдыюм Рады БНР

З Статуту Рады БНР:

*§20. Прэзыдыюм Рады БНР складаецца з Старшыні Рады БНР, ягоных Першага Заступніка і Заступнікаў, Сакратара, Скарбніка і сяброў. Абірае іх, устанаўляючы пры гэтым колькасьць заступнікаў і сяброў, Сэсія Рады БНР на тэрмін 6 гадоў. Склад Прэзыдыюму можа быць зьменены рашэньнем Сэсіі Рады БНР паводле патрэбы. (...)*

*§21. Да кампэтэнцыі Прэзыдыюму Рады БНР належыць:*

*а) вядзеньне справаў Рады БНР у часе паміж ейнымі Сэсіямі;*

*б) дапільноўваньне выкананьня пастановаў Сэсіі органамі Рады БНР;*

*в) рэпрэзэнтацыя Рады БНР навонкі;*

*г) скліканьне Сэсіяў Рады БНР.*

**Сяргей Навумчык**
Першы Заступнік Старшыні



У 1990-1995 гг. дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі XII скліканьня, каардынатар парлямэнцкай Апазыцыі БНФ.
Суаўтар Дэкляpацыі аб Дзяржаўным Сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь.
Журналіст, аўтар шэрагу кнігаў па гісторыі станаўленьня незалежнай беларускай дзяржавы ў пачатку 1990-х.

**Вячаслаў Станкевіч**
Заступнік Старшыні



З 1990 па 1998 гг. дырэктар беларускай службы “Радыё Свабода”, пазьней да 2013 г. выдавец квартальніка “Belarusian Review”.
Старшыня Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў 1969-1971 і 2007-2011 гг.
Ад 2009 г. – Старшыня Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

# ПРЭЗЫДЫЮМ Рады БНР (працяг)

**Алеся Сёмуха**
Сакратар

**Сяргей Пятровіч**
Скарбнік

**Ала Кузьміцкая**
Пратакольны Сакратар

**Ала Орса-Романо**
Сакратар Адукацыі

**Мікола Пачкаеў**
Заступнік Сакратара Вонкавых Справаў

**Валянціна Трыгубовіч**
Архівіст

**Марат Клакоцкі**

**Хведар Нюнька**

**Аляксандр Старыкевіч**

**Ганна Сурмач**

**Сяргей Пяткевіч**

**Павал Шаўцоў**

# 2015 год у падзеях

- 1 студзеня пачала дзейнічаць дамова аб стварэньні Эўразійскага эканамічнага зьвязу, падпісаная ад імя Беларусі рэжымам А. Лукашэнкі.

- 11-12 лютага: Менск стаў пляцоўкай для перамоваў па ўрэгуляваньні канфлікту ва ўсходняй Украіне. У беларускай сталіцы адбылася сустрэча кіраўнікоў дзяржаваў і прадстаўнікоў дыпляматычных ведамстваў Нямеччыны, Украіны, Францыі і Расеі. Сытуацыя ва ўсходняй Украіне на працягу году заставалася стабільнаю. Украінскія гарады Данэцк і Луганск з навакольнымі тэрыторыямі заставаліся пад кантролем прарасейскіх баевікоў, украінская паўвыспа Крым заставалася акупаванай непасярэдна Расейскай Фэдэрацыяй.

- Пры гэтым сутыкненьні ўкраінскіх войскаў зь сіламі баевікоў працягваліся. 10 жніўня ў баі з сэпаратыстамі на тэрыторыі Данэцкай вобласьці быў сьмяротна паранены беларускі жаўнер-добраахвотнік Алесь Чаркашын, актывіст БХД зь Берасьця. 28 жніўня ён памёр у шпіталі.

- 15 красавіка ня стала а. Аляксандра Надсана, духоўнага айца беларусаў замежжа, аднаго з заснавальнікаў і кіраўнікоў беларускай бібліятэкі і беларускага рэлігійнага цэнтру ў Лёндане, у мінулым – раднага БНР.

- На працягу года афіцыйныя ўлады Беларусі і расейскі рэжым У.Пуціна абмяркоўвалі пытаньне аб разьмяшчэньні расейскай авіябазы ў Беларусі. Абмеркаваньні суправаджаліся пратэстамі з боку беларускай грамадзкасьці.

- 14 верасьня ўлады Рэспублікі Беларусь вызвалілі ўсіх застаўшыхся на той момант за кратамі беларускіх палітвязьняў: Міколу Статкевіча, Мікалая Дзядка, Яўгена Васьковіча, Ігара Аліневіча, Арцёма Пракапенку і Юрыя Рубцова. У сьнежні Юры Рубцоў папрасіў палітычнага прытулку ў Нямеччыне.

- Сьвятлана Алексіевіч стала ляўрэаткай Нобэлеўскай прэміі па літаратуры за 2015 год. Гэта першы раз у гісторыі, калі Нобэлеўскую прэмію атрымала грамадзянка незалежнай Беларусі.

- 11 кастрычніка ў Беларусі адбыліся прэзыдэнцкія “выбары”, па выніках якіх Аляксандар Лукашэнка быў у пяты раз абвешчаны Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь. Выбары не адпавядалі дэмакратычным стандартам, што было пацьверджанае ў справаздачы назіральніцкай місіі АБСЭ.

- 2 сьнежня Чарнагорыя атрымала афіцыйнае запрашэньне аб далучэньні да Арганізацыі Паўночнаатлянтычнае Дамовы (NATO).

- Сакавік: Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла выступіла з прамовамі на ўрачыстасьцях, арганізаваных суполкамі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) ў Нью-Ёрку і ў Флярыдзе

- 28 сакавіка Радны БНР Алесь Чайчыц узяў удзел у міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі “Моўныя правы і іх абарона”, арганізаванай Таварыствам Беларускай Мовы ў Менску. У сваёй прэзэнтацыі А. Чайчыц разважаў аб мэтадах папулярызацыі беларускае мовы ў цяперашніх умовах. Рэзалюцыя, прынятая па выніках канфэрэнцыі, адзначала:

*“Права на карыстаньне роднай мовай зьяўляецца адным зь неад'емных правоў чалавека. Тым ня менш, сёньня ў Рэспубліцы Беларусь гэтая каштоўнасьць ігнаруецца, што прыводзіць да канфліктаў, перашкаджае ўстойліваму нацыянальна-культурнаму разьвіцьцю краіны. (...) Мы заклікаем улады Рэспублікі Беларусь няўхільна прытрымлівацца Артыкулу 2 Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека, згодна зь якім усе людзі павінны валодаць усімі правамі і свабодамі, выкладзенымі ў ёй, у тым ліку і ў дачыненьні да роднай мовы, а таксама выконваць палажэньні Канвэнцыі ААН па правах дзіцяці і Дэклярацыі ААН аб правах карэнных народаў.”*

- 29 красавіка Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, Першы Намесьнік Старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык і іншыя прадстаўнікі Рады БНР узялі ўдзел у разьвітаньні з а. Аляксандрам Надсанам у Лёндане. У сваёй прамове Івонка Сурвіла адзначыла:

*“Мы страцілі вялікага чалавека, цудоўнага чалавека і сьвятара. Актыўнага, працаздольнага, які ўсё жыцьцё прысьвяціў Бацькаўшчыне. Мы будзем памятаць яго ня толькі дзеля працы, але і дзеля ягонай дабрыні, ягонай здольнасьці прыцягваць людзей. Ён прыцягнуў сотні ангельцаў, сотні чужых людзей да нашага беларускага жыцьця. За гэты мы яму вельмі ўдзячныя. Я перадаю спачуваньні ад землякоў з Канады, Злучаных Штатаў, Аўстраліі, Францыі, дзе ўсюды любілі айца і паважалі.”*

- Травень: Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла далучылася да заявы беларускіх грамадзкіх дзеячоў з крытыкай кіраўніцтва Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту і з заклікам аб стварэньні нацыянальнага ўнівэрсытэту ў выгнаньні. У заяве адзначалася:

*“У сваім цяперашнім стане ЭГУ не дае падставаў надалей лічыць яго беларускім праектам. Падтрымка такога ўнівэрсытэта ня можа ўспрымацца таксама як падтрымка дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі, паколькі дзейнасьць кіраўніцтва ЭГУ дыскрэдытуе гэтыя каштоўнасьці. Заклікаем грамадзянскую супольнасьць Беларусі прыступіць да неадкладных практычных захадаў дзеля стварэньня эфэктыўнага канкурэнтназдольнага Нацыянальнага ўнівэрсытэта, у якім эўрапейскасьць будзе прынцыпам існаваньня, беларускасьць — стратэгічным выбарам, а Беларусь — унікальным рэсурсам дасьледаваньняў.”*

Да заявы далучыліся такія дзеячы, як будучая ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі Сьвятлана Алексіевіч, пісьменьнік Уладзімер Арлоў, былы старшыня Нацыянальнага Банку Беларусі Станіслаў Багданкевіч, праваабаронца Алесь Бяляцкі і многія іншыя.

- Жнівень: пабачыла сьвет кніга Першага Заступніка Старшыні Рады БНР Сяргея Навумчыка “Дзевяноста пяты”, прысьвечаная падзеям вакол незаконнага рэфэрэндуму ў Беларусі ў 1995 годзе. Прээнтацыі кнігі адбыліся ў розных гарадах. У прадмове да сваёй кнігі Сяргей Навумчык адзначыў наступнае:

*“Дзевяноста пяты год я лічу апошнім годам апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня. Тое, што пачалося ў чэрвені 1988 году словамі Пазьняка пра Курапаты, якія абудзілі нацыю і аб’ядналі грамадзтва вакол нацыянальнай ідэі, што мела апагеем абвяшчэньне Незалежнасьці ў жніўні 1991 году– скончылася ў траўні 1995-га, калі празь нелегітымны рэфэрэндум быў скасаваны статус бел-чырвона-белага сьцяга і «Пагоні» як дзяржаўных сымбаляў і дадзены старт прымусовай русыфікацыі.*

*Драматычныя падзеі 1995-га – вынік супадзеньня інтарэсаў Масквы, якая рэанімавала імпэрскую ідэю, і Лукашэнкі, які меў спадзяваньні праз далучэньне Беларусі да Расеі замяніць хворага Ельцына ў Крамлі. Гэта быў год змаганьня нацыянальна арыентаваных сілаў з тымі, для каго Беларусь была толькі прыступкай на шляху аднаўленьня імпэрыі, а яе народ – інструмэнтам здабыцьця ўласнага дабрабыту“.*

- Жнівень: Старшыня Рады БНР прысутнічала ў Нью-Ёрку на сьвяткаваньні 24-й гадавіны аднаўленьня незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе.

- Кастрычнік: Старшыня Рады БНР павіншавала Сьвятлану Алексіевіч з атрыманьнем Нобэлеўскай прэміі па літаратуры. У сваім лісьце Івонка Сурвіла адзначыла:

*“Я ганаруся, што Нобэлеўская Рада дала ўзнагароду Вам, пісьменьніцы зь Беларусі – гэтаксама, як ганаруся Васілём Быкавым, Адамам Міцкевічам, Маркам Шагалам, Міхалам Клеафасам Агінскім і ўсімі іншымі геніяльнымі творцамі, якіх дала чалавецтву наша зямля. Упершыню беларуска стала ляўрэатам Нобэлеўскай прэміі па літаратуры. Гэта вельмі важная і радасная падзея для Беларусі і беларусаў усяго сьвету. Для тых людзей у замежжы, хто яшчэ нічога ня ведае пра Беларусь – а такіх ёсьць шмат – гэта найлепшым чынам распавядзе пра нашую краіну.”*

- Кастрычнік: Беларуская грамада Амерыкі адзначыла 65-ю гадавіну заснаваньня газэты “Беларус”. За гэты час выйшло 616 нумароў выданьня. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла павіншавала рэдакцыю газэты з гадавінаю поруч з кіраўнікамі беларускіх арганізацый з розных краінаў.

- У сьнежні 2015 г. колькасьць падпісчыкаў старонкі Рады БНР у Facebook дасягнула 2100, што перавышае паказчык старонак большасьці беларускіх палітычных партый і рухаў. Старонка прысьвечаная выбітным дзеячам беларускага нацыянальнага руху і падзеям у гісторыі беларускай дзяржаўнасьці, мерапрыемствам і спадчыне беларускае дыяспары. Адрас: https://www.facebook.com/radabnr



Сьвяткаваньне Дня Волі ў Флярыдзе. На фота (зьлева направа)
Вячка Станкевіч, Івонка Сурвіла,
Сяргей Волкаў (Старшыня Гуртка БАЗА ў Паўднёвай Флярыдзе).



а. Аляксандар Надсан



Разьвітаньне з а. Аляксандрам Надсанам, Лёндан. На фота (зьлева направа) Алена Міхалюк, Івонка Сурвіла, Сяргей Навумчык



Івонка Сурвіла прамаўляе на пахаваньні а. Аляксандра Надсана, Лёндан




“Дзевяноста пяты”, кніга Сяргея Навумчыка




Прэзэнтацыя кнігі Першага Заступніка Старшыні Рады БНР
Сяргея Навумчыка “Дзевяноста пяты”, Нью-Ёрк. На фота (зьлева направа)
Сяргей Навумчык, Вітаўт Кіпель, Івонка Сурвіла, Зянон Пазьняк

## Зварот Старшыні Рады БНР з нагоды Дня Волі

Дарагія суродзічы – беларусы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, віншую вас з нашым вялікім сьвятам – Днём Волі – угодкамі таго слаўнага 25-га сакавіка 1918 году, калі беларускі народ абвясьціў сьвету, што ён "скідае апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці" і што "ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка – незалежная, вольная дзяржава".

Дзякуючы адвазе і рашучасьці нашых продкаў, мы ўвайшлі не як расейская губэрнія ў склад Савецкага Саюзу, а – прынамсі на паперы – як асобная рэспубліка, а ў 1991-м годзе мы дамагліся Незалежнасьці, і Рэспубліка Беларусь як дзяржава заняла сваё адметнае месца на паверхні Зямлі.

Народу нашаму прышлося перажыць шмат бедаў, і мы яшчэ іх далёка не пераадолелі. Але Беларусь жыве! Беларусь ёсьць часткай сям'мі незалежных народаў.

Нажаль, імпэрскі цмок, на якога шмат нашых людзей перасталі зьвяртаць увагу пад уплывам штодзённага прамываньня мазгоў маскоўскай і прамаскоўскай прапагандай, зноў разбудзіўся. Незалежнасьць Беларусі зноў апынулася пад пагрозай і ў сёньняшніх умовах мы ня здолеем яе абараніць без дапамогі цывілізаванага сьвету.

Дарагія суродзічы, любоў да свайго краю, салідарнасьць між намі і нашыя паводзіны ёсьць адзінай зброяй, якой мы валодаем, каб захаваць незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. Толькі калі цывілізаваны сьвет зразумее, што мы ёсьць стары эўрапейскі народ, які нічым ня розьніцца ад іншых эўрапейскіх народаў, і што мы таксама заслугоўваем на эўрапейскія ўмовы жыцьця ў сваёй уласнай вольнай дзяржаве, ён зьверне ўвагу на нашую нядолю.

Але дзеля гэтага трэба, каб іншыя народы бачылі, што мы заслугоўваем на іхні давер і іхнюю павагу. Вольны сьвет не паможа маскоўскім паплечнікам ці саюзьнікам. Нават калі мы ўважаем, што дапамога, якую аказаў Захад Украіне, была недастатковай, каб абараніць яе тэрытарыяльную цэласнасьць, -- бяз салідарнасьці Захаду палова Ўкраіны была б у руках маскоўскага агрэсара. Бяз гэтае салідарнасьці не дамо рады і мы.

Караткевіч казаў: “І адзін можа!” Дык заклікаю сёньня кожнага з вас, мае дарагія суродзічы, -- зрабіце сваёй мэтай спрычыніцца да волі зямлі вашых продкаў і да лепшай долі вашых унукаў і праўнукаў. Каб усе мы маглі разам марыць пра тую Беларусь, пра якую марыў і беларускі народ, калі прыняў Акт 25 сакавіка 1918 году.

Жыве Беларусь!

Івонка Сурвілла, Старшыня Рады БНР.
Сакавік 2015 г.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

10 красавіка 2015 г.

**Заява**

**Рады Беларускае Народнае Рэспублікі з нагоды асуджэньня Ўкраінаю таталітарных рэжымаў XX стагодзьдзя**

Рада БНР вітае прыняцьце Ўкраінаю законадаўчых актаў, якія асуджаюць злачынствы савецкага і нацыстоўскага рэжымаў.

Рада БНР прызнае, што пабудова прававой і дэмакратычнай дзяржавы ў постсавецкіх краінах немагчымая без адназначнай юрыдычнай ацэнкі злачынстваў савецкага таталітарнага рэжыму на тэрыторыі нашых краінаў, рассакрэчаньня архіваў і публікацыі поўнае інфармацыі аб злачынствах і тых, хто іх зьдзяйсьняў.

Рада БНР лічыць прынятае Вярхоўнаю Радаю Ўкраіны рашэньне важным прэцэдэнтам для іншых краінаў, якія пацярпелі ад савецкай улады і дзе камуністычны рэжым яшчэ не атрымаў належнай юрыдычнай ацэнкі.

Рада БНР лічыць неабходным для Беларусі прыняцьце аналягічных законаў, якія б:

- Адназначна асуджалі злачынствы акупацыйнага савецкага рэжыму на Беларусі;

- Рассакрэчвалі архівы палітычных спэцслужбаў СССР і рэжыма Лукашэнкі;

- Прызнавалі ў якасьці барацьбітоў за незалежнасьць Беларусі Слуцкі полк БНР, Асобны атрад БНР у краінах Балтыі, незалежніцкія партызанскія

войскі “Зялёны Дуб” і “Чорны Кот” і іншыя беларускія незалежніцкія збройныя сілы XX стагодзьдзя, а таксама беларускіх добраахвотнікаў, якія цяпер удзельнічаюць у Антытэрарыстычнай апэрацыі збройных сілаў Украіны ў Данбасе, з выдзяленьнем ім ільготаў і ўзнагародаў адпаведна гэтаму статусу.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

8 траўня 2015 г.

**Заява**

**Рады Беларускае Народнае Рэспублікі
з нагоды 70-годзьдзя ад заканчэньня Другое Сусьветнае Вайны
ў Эўропе**

70 гадоў таму, у ноч з 8 на 9 траўня 1945 г., быў падпісаны Акт пра капітуляцыю гітлераўскай Нямеччыны, і ў Эўропе афіцыйна скончылася Другая Сусьветная Вайна.

У вайне загінула больш за чвэрць жыхароў Беларусі. Гэтая лічба ўключае загінулых з усіх бакоў фронту, а таксама ўсіх загінулых цывільных жыхароў. Істотную частку ахвяраў (да 800 тысяч) склалі беларускія габрэі, якіх нямецкія нацысты мэтанакіравана вынішчалі.

Вайна пачалася для Беларусі ў верасьні 1939 году, калі нацыстоўская Нямеччына і сталінскі СССР пасьля падпісаньня Пакту Молатава-Рыбэнтропа ўдвох напалі на Польшчу, і на ўсіх этапах суправаджалася масавым тэрорам супраць мірнага насельніцтва з усіх бакоў канфлікту.

Перамога над нацыянал-сацыялістычнай Нямеччынай, важны ўнёсак у якую зрабілі беларусы, выратавала мільёны людзей ад прамой пагрозы фізычнага вынішчэньня. На жаль, у выніку вайны Беларусь не атрымала свабоды, але на амаль 50 гадоў засталася пад савецкай акупацыяй, якая суправаджалася русіфікацыяй і рэпрэсіямі супраць іншадумцаў, у тым ліку супраць прыхільнікаў дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі.

Чалавецтва павінна шанаваць памяць ахвяраў Другой Сусьветнай Вайны і зрабіць усё, каб такая вайна ніколі больш не паўтарылася.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

---

14 траўня 2015 г.

**Заява**

**Рады Беларускае Народнае Рэспублікі з нагоды 20-годзьдзя рэфэрэндуму 1995 г. у Беларусі**

Дваццаць гадоў таму ў Беларусі быў праведзены рэфэрэндум, паводле афіцыйных вынікаў якога беларуская мова згубіла статус адзінай дзяржаўнай мовы, быў скасаваны дзяржаўны статус бел-чырвона-белага сьцягу і гербу "Пагоня", былі пашыраныя паўнамоцтвы прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь і афіцыйна ўхваленая ягоная палітыка па інтэграцыі з Расейскай Фэдэрацыяй.

Рада БНР канстатуе, што рэфэрэндум 1995 года быў арганізаваны і праведзены з істотнымі і відавочнымі парушэньнямі тагачаснага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, у тым ліку Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, што не дазваляе расцэньваць ягоныя вынікі як юрыдычна правамоцныя. Гэтыя парушэньні ўключаюць, сярод іншых:

- Факт вынясеньня пытаньняў аб мове і нацыянальных сымбалях на рэфэрэндум,

- Гвалтоўны разгон нязгодных з правядзеньнем рэфэрэндуму дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь з мэтай ціску на іншых дэпутатаў пры разглядзе пытаньня аб прызначэньні рэфэрэндуму,

- Працэдурныя парушэньні пры прызначэньні рэфэрэндуму з боку Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, пры прызначэньні камісіяў па рэфэрэндуме, пры прызначэньні даты правядзеньня рэфэрэндуму,

- Дыскрымінацыйныя ўмовы правядзеньня агітацыйнай кампаніі для праціўнікаў прапановаў прэзыдэнта А. Лукашэнкі,

- Істотныя парушэньні пры падліку галасоў.

Рада БНР падкрэсьлівае, што рэфэрэндум1995 г. стаўся ключавым крокам на шляху ўсталяваньня на Беларусі аўтарытарнага рэжыму, раскалоў беларускае грамадзтва, а таксама прывёў да дыскрымінацыі беларускай мовы ў адукацыі, справаводзтве, культуры і да аднаўленьня ў Беларусі найгоршых русіфікацыйных практык часоў СССР.

Рада БНР перакананая, што будучая дэмакратычная беларуская ўлада будзе абавязаная скасаваць вынікі рэфэрэндуму 1995 г., для чаго дастатковаю будзе адпаведная рэзалюцыя з боку дэмакратычна абраных органаў улады Рэспублікі Беларусь.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

29 траўня 2015 г.

**Заява**

**Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ў сувязі з апошнімі падзеямі вакол палітычных вязьняў у Беларусі**

Рада БНР выказвае сваю заклапочанасьць сытуацыяй з палітычнымі вязьнямі ў Беларусі ў сувязі з апошнімі падзеямі.

Рада БНР зьвяртае ўвагу на тое, што паводле паведамленьняў, некалькі дзён таму палітычны вязень Мікалай Дзядок зрабіў спробу самагубства пасьля ягонага памяшчэньня на доўгі час у бесчалавечныя ўмовы. Іншы палітвязень Юры Рубцоў на гэтым тыдні быў дадаткова асуджаны на два гады турэмнага зьняволеньня.

Рада БНР расцэньвае апошнія дзеяньні рэжыма Лукашэнкі ў дачыненьні да палітычных зьняволеных як дэманстрацыйную праяву незацікаўленасьці афіцыйных уладаў Беларусі ў стварэньні здаровай, свабоднай ад страху атмасфэры ў беларускім грамадстве. Рада БНР канстатуе, што вызваленьне палітычных вязьняў не ўтварыла б прамое пагрозы ўладзе Аляксандра Лукашэнкі. Пры гэтым палітычныя вязьні і іншыя палітычныя рэпрэсіі застаюцца інструмэнтам уціску і запалохваньня беларускага грамадзтва.

Як і раней, Рада БНР патрабуе неадкладнага вызваленьня і рэгабілітацыі ўсіх беларускіх палітычных вязьняў: Мікалая Статкевіча, Юрыя Рубцова, Яўгена Васьковіча, Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча, Арцёма Пракапенкі, а таксама рэгабілітацыі ўсіх раней вызваленых палітычных вязьняў.

Рада БНР заклікае міжнародную супольнасьць узмацніць ціск на рэпрэсіўны аўтарытарны рэжым, які ўжо больш за 20 гадоў пануе ў

Беларусі, каб прымусіць яго да вызваленьня палітычных вязьняў і да рэальных крокаў па дэмакратызацыі.

Рада БНР заклікае краіны Эўрапейскага Зьвязу і Злучаныя Штаты Амэрыкі разглядаць вызваленьне і рэгабілітацыю беларускіх палітычных вязьняў у якасьці неабходнае ўмовы для поўнамаштабовага дыялёгу паміж заходнімі краінамі і цяперашнімі афіцыйнымі ўладамі на Беларусі.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

7 ліпеня 2015 г.

**Заява**

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў сувязі з прызначэньнем "выбараў" Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі заяўляе, што ніякія выбары ня могуць лічыцца законнымі і справядлівымі без выкананьня базавых дэмакратычных нормаў, без стварэньня атмасфэры для свабоднага волевыяўленьня, без забесьпячэньня аднолькавых ўмоваў для правядзеньня перадвыбарчае кампаніі для ўсіх кандыдатаў, у тым ліку прадстаўнікоў апазыцыі.

Рада БНР канстатуе, што на дадзены момант у Беларусі адсутнічаюць умовы для правядзеньня свабодных і дэмакратычных выбараў:

- У інфармацыйным полі дамінуюць дзяржаўныя СМІ, якія выконваюць прапагандысцкія задачы на карысьць аўтарытарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Незалежныя журналісты, у тым ліку журналісты тэлеканалу "Белсат", радыё "Рацыя", рэгіянальных СМІ, знаходзяцца пад безупынным ціскам з боку ўладаў.

- За кратамі застаецца некалькі палітычных вязьняў, у тым ліку кандыдат у Прэзыдэнты на "выбарах" 2010 г. Мікалай Статкевіч. У гэтым годзе па незаконных падставах за палітычную дзейнасьць у турму быў памешчаны актывіст Юры Рубцоў. Палітвязьні, вызваленыя раней, застаюцца не рэгабілітаванымі, што накладае на іх сур'ёзныя абмежаваньні ў заняцьці грамадзкай і палітычнай дзейнасьцю.

- Працягваецца незаконны ціск з боку ўладаў на актывістаў, палітыкаў, грамадзкія і палітычныя арганізацыі, якія выказваюць крытыку на адрас рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

Рада БНР канстатуе, што Рэспубліка Беларусь зьяўляецца недэмакратычнай дзяржавай, дзе адсутнічае інстытуцыяналізаваная палітычная канкурэнцыя, а ўлада манапалізаваная групай людзей на чале з Аляксандрам Лукашэнкам. Прынамсі з 1996 году ў Рэспубліцы Беларусь адсутнічаюць легітымна і законна сфармаваныя нацыянальныя законадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы ўлады.

У сувязі з вышэй азначаным, Рада БНР заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь:

- Гарантаваць грамадзянам Беларусі дэмакратычныя правы і свабоды, замацаваныя ў тым ліку ў дзеючым законадаўстве Рэспублікі Беларусь,

- Стварыць у Беларусі перадумовы для правядзеньня паўнавартасных свабодных і справядлівых выбараў, пасьля чаго правесьці ў адпаведнасьці з законадаўствам Рэспублікі Беларусі і міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі перавыбары ва ўсе органы дзяржаўнай і мясцовай улады.

Рада БНР патрабуе неадкладнага вызваленьня і рэгабілітацыі ўсіх беларускіх палітычных вязьняў: Мікалая Статкевіча, Юрыя Рубцова, Яўгена Васьковіча, Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча, Арцёма Пракапенкі, а таксама рэгабілітацыі ўсіх раней вызваленых палітычных вязьняў.

Рада БНР заклікае міжнародную супольнасьць працягнуць ціск на афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь, каб дамагчыся абароны правоў чалавека і рэальных крокаў дзеля дэмакратызацыі палітычнага рэжыму ў Беларусі.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

24 жніўня 2015 г.

**Заява**

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў сувязі з вызваленьнем беларускіх палітычных вязьняў**

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі вітае вызваленьне ўладамі Рэспублікі Беларусь палітычных вязьняў, у тым ліку Міколы Статкевіча, Юрыя Рубцова, Ігара Аліневіча, Яўгена Васьковіча, Мікалая Дзядка і Арцёма Пракапенкі. Вызваленьне палітвязьняў было адным з фундамэнтальных патрабаваньняў Рады БНР да ўладаў Рэспублікі Беларусь на працягу мінулых гадоў.

Разам з тым, Рада БНР заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь да далейшых крокаў па нармалізацыі палітычнае абстаноўкі ў краіне. У прыватнасьці, Рада БНР зьвяртае ўвагу на неабходнасьць наступных захадаў:

1. Поўная юрыдычная рэгабілітацыя былых палітычных вязьняў, вызваленых цяпер і перад гэтым, дзеля прадстаўленьня ім магчымасьці паўнавартаснага заняцьця грамадзкай і палітычнай дзейнасьцю;

2. Стварэньне ў Беларусі перадумоваў для правядзеньня паўнавартасных свабодных і справядлівых выбараў, пасьля чаго правядзеньне ў адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусі і міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі перавыбараў ва ўсе органы дзяржаўнай і мясцовай улады;

3. Гарантаваньне грамадзянам Беларусі ўсіх дэмакратычных правоў і свабодаў, замацаваных у тым ліку ў дзеючым заканадаўстве Рэспублікі Беларусь.

Рада БНР заклікае міжнародную супольнасьць, у тым ліку краіны Эўрапейскага Зьвязу і Злучаныя Штаты Амэрыкі, надалей рашуча патрабаваць дэмакратызацыі ў Беларусі і аказаць Беларусі ўсю магчымую падтрымку дзеля ажыцьцяўленьня пераходу да дэмакратычнага дзяржаўнага ладу.

Спасылаючыся на сваю заяву ад 7 ліпеня 2015 г., Рада БНР нагадвае, што, зважаючы на сукупнасьць фактаў, надыходзячыя выбары Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ужо цяпер ня могуць лічыцца свабоднымі і дэмакратычнымі.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

---

21 верасьня 2015 г.

**Заява**

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**аб процістаяньню плянам стварэньня расейскай вайсковай базы ў Беларусі**

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі,

- Зважаючы на рашэньне расейскіх уладаў аб стварэньні авіяцыйнай базы на тэрыторыі Беларусі,

- Спасылаючыся на Выніковы мэмарандум нарады старшыняў і кіраўнікоў беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў са Старшынёй Рады БНР “Аб захадах дзеля забесьпячэньня незалежнасьці Беларусі” ад 3 лістапада 2012 г. (“Віленскі мэмарандум”),

заяўляе, што дазваляючы стварэньне гэткае базы ў цяперашні час, афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь спрыяюць падвышэньню наступальнага патэнцыялу пуцінскай Расеі, супрацьпастауляючы Беларусь іншым краінам нашага рэгіёну і эўра-атлянтычнай супольнасьці ў цэлым. Рада БНР падкрэсьлівае, што зьяўленьне расейскай вайсковай базы будзе перашкодай для пераадоленьня міжнароднай ізаляцыі Беларусі.

Рада БНР адзначае, што абставіны незаконнай расейскай анэксіі ўкраінскага Крыму дэманструюць гатовасьць Крамля выкарыстоўваць свае замежныя вайсковыя базы супраць краінаў, якія дапусьцілі зьяўленьне гэткіх базаў на сваёй тэрыторыі. У сувязі з гэтым Рада БНР канстатуе, што стварэньне расейскае вайсковае базы істотна падвысіла бы пагрозу для незалежнасьці Беларусі і дало бы пуцінскаму рэжыму важны рычаг узьдзеяньня на Беларусь.

У дадатак да вышэй сказанага, Рада БНР падкрэсьлівае, што, ня будучы легітымным прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь ад 1996 году, Аляксандар Лукашэнка ня мае юрыдычнага права прымаць рашэньні ад імя Рэспублікі Беларусі, як ня мае гэтага права і сфармаваны насуперак закону і дэмакратычным нормам так званы “Нацыянальны Сход Рэспублікі Беларусь”.

Рада БНР зьвяртае ўвагу на тое, што стварэньне замежнай вайсковай базы на тэрыторыі Беларусі наўпрост супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якой замацаванае імкненьне да нэўтральнага статусу нашае краіны.

Рада БНР канстатуе, што міжнародная палітыка цяперашніх афіцыйных уладаў Рэспублікі Беларусь, якая працягвае грунтавацца на таргоўлі беларускім сувэрэнітэтам узамен на эканамічнае і палітычнае спонсарства з боку Крамля, у чарговы раз дэманструе сваю непасярэднюю небясьпеку для беларускай дзяржаўнасьці і прамую супярэчнасьць інтарэсам беларускага народу, а таксама інтарэсам міжнароднай бясьпекі.

Рада БНР зьвяртаецца да падпісантаў Віленскага мэмарандуму, а таксама да іншых беларускіх палітычных дзеячоў, якія стаяць на пазыцыях дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі, з заклікам усімі сіламі процістаяць стварэньню замежнай вайсковай базы на тэрыторыі Беларусі.

Рада БНР заклікае ўрады ўсіх сяброўскіх да Беларусі краінаў аказаць дыпляматычны ціск на цяперашнія афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь з мэтаю перадухіліць стварэньне базы вайскова-паветраных сілаў пуцінскай Расеі на тэрыторыі Беларусі, якое ставіла б пад дадатковую пагрозу мір і бясьпеку у Эўропе.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

---

13 кастрычніка 2015 г.

**Заява**

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**з нагоды “выбараў” прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, спасылаючыся на сваю заяву ад 7 ліпеня 2015 году, заяўляе, што “прэзыдэнцкія выбары” ў Рэспубліцы Беларусь, праведзеныя 11 кастрычніка 2015 года, ня могуць лічыцца справядлівым і дэмакратычным волевыяўленьнем беларускага народу, а іхныя вынікі ня маюць юрыдычнае сілы.

Рада БНР зьвяртае ўвагу на наступныя фактары:

- Адсутнасьць раўнапраўных умоваў для вядзеньня выбарчае кампаніі, у тым ліку інфармацыйная палітыка агульнанацыянальных дзяржаўных СМІ, якія на працягу выбарчае кампаніі выконвалі прапагандысцкія задачы на карысьць кандыдата А. Лукашэнкі;

- Непадкантрольнасьць і непадсправаздачнасьць цэнтральнай і мясцовых выбарчых камісій беларускаму грамадзтву;

- Цалкам не празрысты для назіральнікаў працэс падліку галасоў, асабліва ў ходзе датэрміновага галасаваньня, у якім, паводле афіцыйных вынікаў, узяло ўдзел больш за 36% выбарцаў;

- Агульная атмасфэра ў беларускім грамадзтве, якая склалася на працягу дваццаці гадоў аўтарытарызму і ўключае далейшы ціск на палітычныя і грамадзкія арганізацыі, ціск на недзяржаўныя СМІ, агульную адсутнасьць дэмакратычнага палітычнага працэсу ў краіне. Рада БНР адзначае, што вызваленьне палітычных вязьняў, зробленае напярэдадні выбараў, можа

разглядацца толькі як першы крок да нармалізацыі палітычнай атмасфэры ў Беларусі.

Рада БНР робіць выснову, што грамадзянін Аляксандар Лукашэнка, які паводле афіцыйных вынікаў мае быць абвешчаны пераможцам прайшоўшых “выбараў”, надалей не зьяўляецца законна абраным прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь. Спасылаючыся на сваю заяву ад 7 ліпеня 2015 году, Рада БНР канстатуе, што Рэспубліка Беларусь надалей застаецца недэмакратычнай дзяржавай, дзе адсутнічае інстытуцыяналізаваная палітычная канкурэнцыя, а ўлада незаконна манапалізаваная групай людзей на чале з Аляксандрам Лукашэнкам.

Рада БНР паўторна зьвяртае ўвагу на тое, што ніводныя выбары і ніводзін рэфэрэндум, праведзеныя ў Рэспубліцы Беларусь ад 1994 году, не адпавядалі дэмакратычным нормам, у тым ліку нормам, зацьверджаным у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і іншых заканадаўчых актах Рэспублікі Беларусь. Рада БНР падкрэсьлівае, што прынамсі з 1996 году ў Рэспубліцы Беларусь адсутнічаюць легітымна і законна сфармаваныя нацыянальныя заканадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы ўлады.

Рада БНР надалей заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь:

- Гарантаваць грамадзянам Беларусі дэмакратычныя правы і свабоды, замацаваныя ў тым ліку ў дзеючым заканадаўстве Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дамовамі, падпісанымі Рэспублікай Беларусь.

- Стварыць у Беларусі перадумовы для правядзеньня паўнавартасных свабодных і справядлівых выбараў, пасьля чаго правесьці ў адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі перавыбары ва ўсе органы дзяржаўнай і мясцовай улады. У прыватнасьці, Рада БНР заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь да правядзеньня парлямэнцкіх выбараў у 2016 годзе ў адпаведнасьці зь міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі і пад кантролем міжнародных назіральнікаў.

Зважаючы на актуальную сытуацыю ў міжнароднай палітыцы і ў эканоміцы, Рада БНР заяўляе, што адсутнасьць дэмакратычнага палітычнага працэсу ў Беларусі і манапалізацыя ўлады ў краіне з боку групы на чале з А. Лукашэнкам зьяўляюцца непасярэднай пагрозай незалежнасьці Беларусі і дабрабыту беларусаў.

Рада БНР заклікае міжнародную супольнасьць спрыяць дэмакратызацыі Беларусі і ажыцьцяўляць ціск на афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь з гэтаю мэтай.

## Зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы да 95-ай гадавіны Слуцкага Збройнага Чыну

Дарагія суродзічы, сябры!

Зноў надыходзіць канец лістапада, калі нашыя случчакі, 95 гадоў таму, узяліся за зброю, каб не дапусьціць новай акупацыі свайго краю бальшавіцкімі агрэсарамі.

У вольным сьвеце ўсе мы ганарымся нашымі Слуцкімі патрыётамі і з удзячнасьцю кожны год адзначаем іх Збройны Чын на нашых сьвяткаваньнях Дня Герояў. Успамінаем адначасна і ўсіх іншых герояў Беларусі, якія загінулі, каб жыла Бацькаўшчына.

Нажаль, вельмі мала нашых суродзічаў у Беларусі чулі пра Слуцкі Збройны Чын і змаганьне Случчакоў за волю Беларускай Народнай Рэспублікі. У школах БССР было забаронена прыгадваць Слуцкія падзеі, гэтак як сёньня забаронена насіць майкі з "Пагоняй" -- нашым старажытным гэрбам – у Рэспубліцы Беларусь. Бо рукамі антыбеларускага рэжыму, які пануе ў нашым краі, ўсё яшчэ адбываецца павольны генацыд нацыі, пачаты Кацярынай II два стагодзьдзі таму.

Дарагія суродзічы, дазвольце заклікаць вас аддаць даніну павагі нашым слуцкім героям.Ісьці змагацца ім было цяжка – як гэта было б сёньня вам.
Але яны,
усё-ж, пайшлі.

Вечная ім памяць!

Жыве Беларусь!

Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

Лістапад 2015 г.

## Рада БНР: захавальніца традыцый і частка шляху да дэмакратыі

### *Івонка Сурвіла пра мінулае, сучаснасьць, будучыню беларускага ўраду ў выгнаньні*

Калі б кіраўнікі Беларусі ў Сярэднявеччы былі такімі ж мудрымі, як імпэратары Кітая, яны б пабудавалі сьцяну ўздоўж іх мяжы з Масковіяй яшчэ ў самым пачатку яе агрэсіі. Замест гэтага, змучаныя абарончымі войнамі супраць усходніх захопнікаў, якія квапіліся на іх зямлю, літоўскія вялікія князі заключылі абарончы хаўрус з Польшчай. Гэта здарылася ў Любліне ў 1569 годзе. Прайшло амаль чатыры з паловай стагодзьдзя, і сёньня я хацела б паразважаць пра урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які знаходзіцца ў выгнаньні вось ужо 96 гадоў зноў дзеля экспансіяніcцкай палітыкі нашага "старэйшага брата" з усходу.

### Шлях да незалежнасьці: ад ВКЛ да БНР

Каб зразумець цяперашняе становішча нашай краіны, трэба разгледзець нядаўні гістарычны вопыт Беларусі і беларусаў.

У той час, калі народ Беларусі 25 сакавіка 1918 г. абвесьціў незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, прайшло было 148 гадоў з моманту першага з падзелаў Рэчы Паспалітай Двух Народаў. 148 гадоў з дня, калі вялікі кавалак тэрыторыі Беларусі быў захоплены нашай усходняй суседкаю. Акупацыя была завершана ў 1795 годзе, калі ўся Беларусь стала правінцыяй Расеі.

Царская ўлада зрабіла 19-е стагодзьдзе адным з найбольш змрочных пэрыядаў гісторыі Беларусі. Мы ледзьве выжылі як нацыя. Нашыя культура, мова, рэлігія, пачуцьцё ідэнтычнасьці і годнасьць былі падвергнуты бесьперапыннаму перасьледу. Адказ і надзея на перамены прыйшлі ў 1918 годзе, калі народ Беларусі абвясьціў сваю незалежнасьць.

Абвяшчэньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі было самай важнай падзеяй у гісторыі сучаснай Беларусі. Безь яго Масква не пагадзілася б стварыць у 1919 годзе савецкую Беларускую рэспубліку (ССРБ, потым - БССР). Калі б не было БССР, Беларусь ня стала бы зноў незалежнай у 1991 годзе. Такім чынам, дзякуючы БНР сёньня існуе незалежная Рэспубліка Беларусь, якой бы недасканалай яна ні была.

Калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі была выціснутая ў выгнаньне наступаючымі бальшавіцкімі войскамі, яе прыняла Чэхаславаччына. Два першыя старшыні Рады БНР у выгнаньні - Пятро Крэчэўскі і Васіль

Захарка - жылі ў гэтай краіне. У сваім тэстамэнце у 1943 годзе Васіль Захарка даручыў Міколу Абрамчыку ўзяць на сябе кіраўніцтва барацьбой да таго моманту, пакуль ня зможа быць сабраная новая сэсія Рады. Гэтая сэсія адбылася ў Нямеччыне ў 1947 годзе, на ёй М. Абрамчык быў абраны новым Старшынём Рады. Ён быў на гэтай пасадзе да сваёй сьмерці ў 1970 годзе. Яго месцам жыхарства быў Парыж, Францыя. Яго пераемнікам стаў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, канадзка-беларускі прафэсар. Пятым Старшынём Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні быў доктар Язэп Сажыч. Я - шостая Старшыня Рады БНР у выгнаньні. Я была абраная на пасяджэньні Рады, якое адбылося ў Нью-Ёрку ў жніўні 1997 года, і была пераабраная на пасяджэньнях Рады ў 2003 і 2009 гадах.

Мэтай Рады БНР у выгнаньні заўсёды было і застаецца зрабіць Беларусь незалежнай дэмакратычнай беларускай дзяржавай у адпаведнасьці з трыма Устаўнымі Граматамі БНР, прынятымі ў 1918 годзе. Рада БНР працягвае існаваць, таму што цяперашнія ўмовы існаваньня Беларусі не адпавядаюць яе канцэпцыі беларускай дзяржавы. Міжнародны склад Рады кожныя шэсьць гадоў абірае новы ўрад, які працягвае дзейнічаць у адпаведнасьці з гэтым даўнім мандатам.

Першая мэта Рады, незалежнасьць, была дасягнутая ў 1991 годзе. Пытаньне, якое найбольш часта задаюць з тых часоў, - чаму Рада захоўвае свой мандат, калі ўсе іншыя ўрады ў выгнаньні рэспублік СССР і савецкіх краінаў-сатэлітаў вярнулі іхныя мандаты пасьля дасягненьня незалежнасьці.

Я паспрабую тут адказаць на гэтае пытаньне і выказаць сваё разуменьне прычынаў, чаму роля Рады застаецца важнаю сёньня.

**Чаму мы адзіны ў Эўропе урад выгнаньні?**

Калі Савецкі Саюз распаўся, усе ўрады ў выгнаньні з былых савецкіх рэспублік і савецкіх краін-сатэлітаў вярнулі свае мандаты на радзіму, за выключэньнем Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні.

Прыгнечаныя нацыі адчувалі тады велізарную хвалю надзеі. Усе разьлічвалі на тое, што канец імпэрыі будзе азначаць адраджэньне старых дзяржаваў на базе каштоўнасьцяў, якія на працягу паўстагодзьдзя захоўваліся іхнымі ўрадамі ў выгнаньні.

Так яно і сталася - з адзіным выключэньнем Беларусі.

Прычынамі гэтага - па-першае, тое, што ўрадавыя структуры Беларусі 1991 году яшчэ не былі сфармаваныя шляхам свабодных выбараў, а краіна, хоць і незалежная, не магла лічыцца дэмакратыяй (хоць значэньні гэтага тэрміну і могуць адрозьнівацца ў дэталях).

Чалавечы фактар адыграў ня меншую ролю. Дзеля свайго геапалітычнага значэньня для Расеі і блізкасьці да Масквы, беларуская тэрыторыя у большай ступені, чым любая іншая савецкая рэспубліка, сталася радзімай для новага кшталту чалавека, які меў быць ідэальным грамадзянінам новага савецкага парадку. Ягонымі асноўнымі характарыстыкамі былі поўнае няведаньне свайго дасавецкага мінулага, успрыняцьце Расеі як "старэйшага брата", замена яго роднай мовы, атрыманых ад продкаў культуры і каштоўнасьцяў на расейскую мову і расейскія культурныя і гістарычныя каштоўнасьці. Праявы ўласнай нацыянальнай ідэнтычнасьці ва ўсіх нерасейскіх рэспубліках СССР называлася "буржуазным нацыяналізмам".

З гэтай прычыны нашыя людзі не чынілі супраціву маскоўскай палітыцы русіфікацыі. Перажыўшы дзве сусьветныя вайны на сваёй тэрыторыі і гады савецкага тэрору, пазбаўленыя свабоды з часоў падзелаў Рэчы Паспалітай, пазбаўленыя гістарычнай памяці, беларусы выпрацавалі неверагодныя навыкі выжываньня і прыстасаваліся да савецкага ладу жыцьця. Яны былі гатовыя прыняць што заўгодна, "абы не было вайны".

Іхныя навыкі зрабілі Беларусь адной з найбольш багатых рэспублік Савецкага Саюза. Настолькі, што Беларусь перажыла наплыў ажно двух мільёнаў савецкіх грамадзян - небеларусаў. Цяпер ужо шмат хто з гэтых людзей і іх нашчадкаў асвоіліся на Беларусі, вывучылі беларускую мову і сталі сапраўднымі беларусамі. Але ў савецкія часы такі буйнамаштабовы прыток людзей істотна зьмяніў характар электарату ў краіне з насельніцтвам у дзесяць мільёнаў.

Недэмакратычна абраны парлямэнт, "дэнацыяналізаваная нацыя" (паводле дэфініцыі навукоўца Дэвіда Марплза), моцны замежны элемэнт у складзе насельніцтва - усё гэта былі фактары, якія мы не маглі ігнараваць, думаючы пра будучыню Рады БНР.

Тым ня менш, некаторыя ключавыя падзеі надалі імпульс для актывізацыі дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі. Адкрыцьцё інфармацыі пра расстрэльны палігон у Курапатах і Чарнобыльская катастрофа, чые наступствы для Беларусі савецкія ўлады тры гады замоўчвалі, на працягу кароткага часу спарадзілі "бунт" нават унутры камуністычных структураў рэспублікі. Невялікая, але моцная апазыцыя на чале зь Зянонам

Пазьняком, верагодна, здолела б вывесьці насельніцтва Беларусі з рэжыму простага выжываньня, калі б беларусы ўбачылі прыкметы падтрымкі або спагады з боку Захаду.

Але Захад не цікавіўся гэтай невялікай дзяржаваю, якую там доўгі час лічылі чыста савецкім утварэньнем. "Мы мусім дзесьці правесьці лінію", сказала тагачасная канадзкая віцэ-прэм'ер Шэйла Коппс, калі нашая грамада прасіла аб дапамозе для Беларусі. Для простых беларусаў надзея прайграла настальгіі. У той жа час, Расея ўжо моцна ціснула на Вярхоўны Савет Беларусі, які быў абраны да незалежнасьці.

Усьведамляючы гэтую сытуацыю, Рада вырашыла пачакаць і паглядзець. Перад вяртаньнем нашага мандату мы хацелі быць упэўненымі, што незалежнасьць была незваротная і што мы Беларусі больш не спатрэбімся. Мы лічылі, што Рада БНР - законны парлямэнт у выгнаньні - гэта важны актыў у нашых руках, і мы не зьбіраліся расставацца зь ім без сур'ёзных гарантый. Рашэньне было адзінагалосным. І неўзабаве пасьля гэтага наша правата пацьвердзілася. Новы прэзыдэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка, абраны ў 1994 годзе, менш чым праз год пасьля свайго абраньня паказаў, хто былі ягоныя гаспадары. У траўні 1995 года ён правёў свой першы сфальсыфікаваны рэфэрэндум, з дапамогай якога ён зноў вярнуў савецкія сымбалі і зрабіў расейскую мову дзяржаўнай мовай Беларусі. У 1996 годзе Расея ўзнагародзіла яго за гэта, прадухіліўшы ягоны імпічмэнт.

З тых часоў наша мэта ў тым, каб абараніць дзяржаўнасьць Беларусі, якой пастаянна пагражае наш больш агрэсіўны ўсходні сусед, і дапамагчы дэмакратычнай апазыцыі ў змаганьні зь незаконным урадам Аляксандра Лукашэнкі і пабудове сучаснай эўрапейскай Рэспублікі Беларусь.

**Наша цяперашняя роля**

У сьнежні 2001 года журналіст Эдвард Лукас ў часопісе The Economist прывёў цытату эстонскага палітыка ў выгнаньні, які падкрэсьліў, што самім фактам свайго існаваньня ўрад у выгнаньні выконвае важную функцыю.

Рада БНР, або ўрад Беларусі ў выгнаньні, мог бы проста быць сымбалем свабоднай Беларусі. Гэты сымбаль быў вельмі патрэбны Беларусі. Мы выконвалі гэтую ролю ў канцы тэрміну майго папярэдніка доктара Сажыча, у пачатку дзевяностых гадоў. У той момант мы адчулі, што зрабілі ўсё, што маглі, каб Беларусь зьявілася на мапе сьвету, і што надыйшла чарга беларускага народу змагацца за лепшую Беларусь. Гэта было да абраньня А. Лукашэнкі і да рэфэрэндуму 1995 году.

Дыяспара, якая падтрымлівае Раду, зрабіла шмат, каб прыцягнуць увагу да Беларусі пасьля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У Канадзе мы стварылі Канадзкі фонд дапамогі ахвярам аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Беларусі і вывезьлі тысячы дзяцей на адпачынак у Канаду. Беларусы Канады і дыяспара ў іншых краінах дапамаглі адпраўляць лекі ў Беларусь.

Мы зразумелі, як моцна Беларусі патрэбныя сябры у вольным сьвеце. Я лічу, што наша няўдача на Вэрсальскай канфэрэнцыі ў 1918 годзе, (калі дэлегацыя БНР ня здолела пераканаць міжнародную супольнасьць прызнаць незалежнасьць Беларусі), была наступствам таго, што мы ня мелі сяброў у палітычных колах. У той жа самы час, многія з нашых суседзяў, што абвесьцілі і захавалі сваю незалежнасьць у пэрыяд паміж войнамі, мелі сяброў у стратэгічна важных сталіцах... Таму Рада БНР паставіла сабе мэту знаходзіць сяброў для Беларусі.

Мы таксама зразумелі, якім магутным палітычным інструмэнтам можа быць культура. Для таго, каб зрабіць Беларусь членам супольнасьці эўрапейскіх народаў, а ня толькі зонай бедзтва і "апошняй дыктатурай Эўропы", мы паставілі сабе мэту прыцягнуць увагу да беларускай культуры: паўсюль, дзе можна, і любымі спосабамі.

Але наш самы важны палітычны ўнёсак у адраджэньне беларускай дэмакратыі, захаваньне беларускай культуры і ахову беларускай дзяржаўнасьці быў зроблены і працягвае рабіцца шляхам прамых зносінаў з прыязнымі да Беларусі ўрадамі.

Перадусім мы працуем з урадамі тых краінаў якія пераважылі падобныя сытуацыі (напрыклад, Чэхія), ці тымі, хто зрабіў сваёй мэтай абараняць дэмакратыю ў сьвеце (як Злучаныя Штаты Амерыкі), ці тымі, хто заяўляе, што яны не гатовыя цярпець парушэньні правоў чалавека ў любым месцы сьвету (як Канада). Каб мець у гэтым посьпех, ад нас патрабаваліся настойлівасьць, пераканаўчасьць, актыўныя камунікацыі і інфармаваньне. Гэтага было лягчэй дасягнуць, працуючы праз нашыя суполкі, створаныя ў краінах, чыя дапамога нам была патрэбна, і разам з дэмакратычнай апазыцыяй у Беларусі. Гэтая праца мае вынікі. Прыкладам, згаданая мною Чэская Рэспубліка даўно зьяўляецца партнэрам Рады БНР, мяне ўжо некалькі разоў прымалі там на самым высокім узроўне.

Але як прадстаўніцу ўраду ў выгнаньні, мяне, напэўна, не запрасілі б для кансультацыі ў Францыю ці Нямеччыну. Посьпех нашых намаганьняў вельмі моцна залежыць ад таго, з кім мы маем справу. Як я ўжо сказала, краіны, якія былі ў падобнай да нас сытуацыі, добра разумеюць

значнасьць ураду ў выгнаньні. Але вельмі часта кантакты з урадам у выгнаньні ўспрымаюцца як канфлікт інтарэсаў, асабліва там, дзе маецца бізнэс альбо асобныя палітычныя інтарэсы, напрыклад, пытаньні Арктыкі ў выпадку Канады і Расеі. Мы разумеем гэта вельмі добра.

Мы неаднаразова папярэджвалі нашых партнэраў пра імпэрыялістычныя інстынкты кіраўніцтва Расеі і казалі пра недапушчальнасьць ахвяраваньня інтарэсамі Беларусі дзеля будаўніцтва стасункаў Захаду з Масквой. Падзеі апошніх гадоў яскрава прадэманстравалі, што мы мелі рацыю.

**Рада БНР і Беларусь**

У рэшце рэшт, я хацела бы паразважаць пра ўзаемаадносіны Рады БНР з сучаснай Беларусьсю.

На думку многіх, за савецкім часам мы былі сьвятлом надзеі, якое прывяло нашых змагароў за свабоду ў Беларусі да нашай агульнай мэты - незалежнасьці нашай краіны. Будучы па-за Беларусьсю, мы захавалі мову, гістарычную памяць, нацыянальную ідэнтычнасьць, у той час, калі яны былі зьнішчаныя ў Беларусі. У пэрыяд Адраджэньня ў пачатку дзевяностых гадоў Старшыню Рады БНР доктара Сажыча прымалі ў Беларусі ў якасьці ганаровага госьця.

Як толькі ў 1994 годзе прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь стаў А. Лукашэнка, мы сталі "ворагамі народа" разам зь беларускай дэмакратычнай апазіцыяй. У сваёй прамове ў расейскай Думе ў 1998 годзе Лукашэнка паведаміў прыязна настроенай да яго аўдыторыі, што ягоны супернік - нейкі Сульвіла або Сурвіла, эмігрант часоў Першай Сусьветнай Вайны, якому цяпер 97 гадоў (мужчына, вядома) і якога падтрымлівае Захад.

Наша актыўная пазыцыя на працягу наступных гадоў, наша крытыка дыктатуры ў Беларусі яшчэ больш абазлілі рэжым А. Лукашэнкі супраць Рады БНР. Само па сабе публічнае згадваньне Рады, гэтаксама як беларускага бел-чырвона-белага сьцягу і гістарычнага гербу "Пагоня", не дазволена ў Беларусі, акрамя выпадкаў, калі мэтай зьяўляецца ачарненьне з боку прапагандысцкай машыны. Ніякая хлусьня не зьяўляецца для іх занадта вялікай, каб змагацца з намі.

Улічваючы, што прамываньне мазгоў мае посьпех сярод простых беларусаў, якія не заўсёды маюць доступу да аб'ектыўнай інфармацыі, і для апазыцыі мы не заўсёды тыя хаўрусьнікі, якімі яна выхваляецца перад шырокай грамадзкасьцю.

Нашы адносіны з большасьцю апазыцыйных партый, аднак, добрыя. Калі мы разам наведваем міжнародныя мерапрыемствы, якімі б ні былі адрозьненьні ў нашых поглядах, мы ўсе ведаем, што наша агульная мэта заключаецца ў тым, каб захаваць беларускую дзяржаўнасьць і каб зрабіць Беларусь свабоднай эўрапейскай дэмакратыяй.

**Што далей**

Што тычыцца будучыні Рады БНР, мы вельмі чакаем таго мамэнту, калі зможам аддаць наш мандат дэмакратычна абранаму беларускаму ўраду. Наша роля ў той час будзе вельмі моцна залежаць ад свабоднай волі народу Беларусі. Ад беларусаў будзе залежаць, якую дэмакратыю яны будуць мець. Калі мы адчуем, што ня зможам быць карыснымі ў самой Беларусі, мы працягнем працу па пошуку сяброў для нашага народу, якіх яму так моцна бракавала ў мінулых стагодзьдзях.

Няма ніякіх сумневаў, што для многіх урад у выгнаньні - гэта нешта экзатычнае. Але гэткі ўрад існуе з-за неабходнасьці і дзейнічае ва ўмовах шматлікіх праблемаў, дылемаў і рознага разуменьня ягоных магчымасцяў.

Мой вопыт працы ў гэтай структуры прыносіць часам расчараваньне, часам задавальненьне. Я сустракаю рознае ўспрыняцьце Беларусі, розныя суадносіны ўхваленьня і разуменьня ўмоваў існаваньня такога ўрада. Але тое, наколькі Рада БНР зьяўляецца агульнапрызнанай, зьяўляецца менш важным, чым сам факт нашай прысутнасьці ў сьвеце і сталасьць, пастаяннасьць гэтай прысутнасьці.

Мы дзейнічаем, грунтуючыся на той ідэі, што мы - частка шляху Беларусі да дэмакратыі і да росквіту. Мы першымі, яшчэ з 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя, выступалі і выступаем пасярэднікамі паміж Беларусьсю і вольным сьветам. Што яшчэ больш важна - мы застаемся захавальнікамі традыцый беларускай дзяржаўнасьці і барацьбы беларусаў за тое, каб мець уласную свабодную і дэмакратычную дзяржаву нароўне з іншымі народамі Эўропы. Усё гэта для таго, каб наблізіць для Беларусі перамены да лепшага.

**Івонка Сурвіла**
**Сьнежань 2015 г.**

# Summary in English

## The Rada of the Belarusian Democratic Republic: Annual report for 2015

The Rada of the Belarusian Democratic Republic (the Rada BNR) is the oldest existing Belarusian governmental body, established in 1917 at the All-Belarusian Congress of political organisations and local governments in Minsk. In 1918, the Rada BNR acted as the temporary supreme legislative and executive body of the Belarusian Democratic Republic. Since 1919, the Rada BNR is in exile and represents the interests of an independent and democratic Belarus in the Free World. During these years, the Rada BNR has established and maintains working contacts with representatives of governments of democratic countries, advising them on policies towards Belarus.

2015 has been the year of another presidential election in the Republic of Belarus. According to official results, Aliaksandr Lukashenka has been declared President of Belarus for the fifth time, after first being elected 22 years ago. The Rada BNR has condemned the elections as undemocratic and unfair. A later report of the OSCE Election Observation Mission has confirmed this (see http://www.osce.org/odihr/elections/belarus/218981).

Before the elections, in accordance with the demands of the Rada BNR, the official authorities of the Republic of Belarus have released the political prisoners Mikałaj Statkievič, Jury Rubcoŭ, Jaŭhien Vaśkovič, Mikałaj Dziadok, Ihar Alinievič and Arciom Prakapienka.

An important loss for Belarus this year has been the passing of Fr. Alexander Nadson, a former member of the Rada BNR, one of the founders of the Francis Skaryna Library in London and a leader of the Belarusian community in the United Kingdom.

In 2015, Śviatłana Aleksijevič (Svetlana Alexievich) has become the first citizen of an independent Belarus to receive the Nobel Prize in Literature. The President of the Rada BNR has sent her official congratulations to Ms. Aleksijevič.

